Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 11 да 12 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: за 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1 мес.—75 гр.

Год 1. Вільня, 24 сьнежня 1929 г. №. 3.

## Ня слоў, а дзела!

У № I журналу „Сям‘я і Школа“ з лютага г.г. быў, між іншым, зьмешчаны артыкул Р. Астроўскага аб Народнай Асьвеце ў Польшчы наагул і аб беларускай школьнай справе ў асаблівасьці.

У артыкуле гэтым аўтар, паддаючы крытыцы сучасную структуру польскае школы, пачынаючы ад пачаткавай і канчаючы вышшай, будуе даволі арыгінальны, але сьмелы і стройны, не пазбаўлены слушнасьці проэкт організацыі школы ўсіх ступеняў і відаў.

Разважаючы над справаю беларускае школы ў Заходняй Беларусі (пад Польшчай), аўтар ужо на пачатку даволі іронічна зазначае: „Але з чаго тут пачаць? Заданьне ня лёгкае! Ці-ж можна гаварыць аб беларускай школе, як аб нечым рэальна-існуючым?“

У далейшых сваіх разважаньнях аўтар, што праўда, не глядзіць на справу безнадзейна і, захоплены будаўніцтвам свае стройнае школьнае сыстэмы ў Заходняй Беларусі, кажа: „яшчэ год, яшчэ два, і ею (г. зн. белар. школьн. справаю) змушана будзе заняцца ўсур‘ез Міністэрства Асьветы“, бо-ж імкненьне беларускага народу мець сваю родную школу ўжо настолькі вялікае, што „гэтае народнае хвалі ўжо ня спыніць, ня стрымаць“.

У хуткім часе на гэты артыкул адгукнулася і польская прэса, якая, між іншым, зазначыла, шчо дамаганьні Астроўскага для беларускага школьніцтва ўважае за мінімальныя і зусім слушныя.

Спробуем цяпер сконкрэтызаваць тое, чаго дамагаўся тады аўтар ад Польскага Ураду і польскага грамадзянства:

1. Істнуючыя 3 беларускія гімназіі ў Вільні, Навагрудку і Клецку павінны атрымаць поўныя правы і адпаведную, зусім іх забясьпечваючую ўрадовую дапамогу.

2. Замест зачыненае ўрадам Радашкоўскае гімназіі павінны быць адчынены 2 поўнапраўныя беларускія гімназіі—адна ў Горадні, другая—ў Пінску ці Берасьці.

3. Адчыніць па 1-2 на павет поўныя беларускія сямілеткі (7-мі аддз. пач. школы).

4. Адчыніць няпоўныя (1—2 аддз.) беларускія пачатк. школы там, дзе народ гэтага дамагаецца і дзе яны належацца яму на падставе хоць так фатальнае для нас языковае Уставы з дня 31. VII. 1924 г.

5. Адчыніць у Вільні аднагадовыя вучыцельскія курсы і вярнуць да краю ўсіх вучыц. беларусаў з так зв. кракаўскіх курсаў.

6, Адчыніць пры Віленскім Унівэрсытэце Беларускі Пэдагогічны Інстытут.

7. Стварыць пры Міністэрстве Асьветы, ці пры Віленскім Школьным вокругу спэцыяльны дэпартамэнт ці аддзел беларускіх школаў.

Паглядзім цяпер, што з гэтых „слушных“ і „мінімальных“ жаданьняў Урадам зьдзейсьнена за мінулы год.

Здаецца, што ня прыдзецца й пералічваць па пунктах, бо-ж... адказам будзе служыць адно слова: „Нічагусенькі!“,—калі ня лічыць таго, што Віленская і Навагрудзкая гімназіі атрымалі яшчэ па адным „этаце“, які выносіць у м-ц прыблізна 250 злотых; але за тое Віленская гімназія з верасьня месяца павінна плаціць Ураду за памяшчэньне ў Траецкіх мурох аж 500 зл. у месяц!— Акром таго, Беларускі Вучыцельскі Саюз у восені г. г. зьвярнуўся да Віленскага Куратара з просьбаю аб канцэсію на адчыненьне прыватнае белар. вучыцельскае Сэмінарыі ў Вільні і аднагадовых вучыцельскіх курсаў, бо-ж бяз гэтага заўсёды будзе трываць сёньняшняе палажэньне, калі Улада, адмаўляючыся адчыняць беларускія школы, паклікаецца на нястачу кваліфікаваных вучыцялёў, І вось на просьбу Саюзу дасюль няма адказу, а паўгоду ўжо мінула. Ізноў, значыць, на наступны год палажэньне застанецца бяз зьмены. Ізноў няма нам школы, бо няма вучыцялёў,—а скуль жа іх возьмеш, калі і курсаў не даюць, і сэмінарыі на‘т прыватнай адчыніць не дазваляюць?!

А можа мы залішне вымагаем? Можа сапраўды нам нічога з тут пералічанага не належыцца? Можа тыя, хто нам прызнае слушнасьць, самі не арыентуюцца ў працэнтных суадносінах народаў, насяляючых Польскую Рэч Паспалітую?

Каб не памыліцца і каб ня мець ніякага сумліву, папрабуем аблічыць хоць прыблізна тое, на што Беларусы ў Польшчы маюць права па закону.

Урадавая статыстыка выказвае, што Беларусаў у Польшчы жыве каля 2 мільёнаў. Хаця гэтая лічба й няточная, але, каб ня памыліцца, будзем лічыць і мы 2 міл. Усяго у Польшчы тая-ж урадовая статыстыка налічвае насяленьня каля 28 мільёнаў. Ізноў-жа, каб не памыліцца, будзем лічыць—30 мільёнаў. Такім чынам цыфры нам паказваюць, што Беларусы становяць прыблізна $^{1}/_{15}$ (пятнаццатую) частку ўсяго насяленьня Польшчы. З гэтага лёгічны вывад: калі беларусы нароўні з усімі іншымі нясуць аднолькавыя падаткі дзяржаве, дык па справядлівасьці ім належыцца $^{1}/_{15}$ той сумы, якая расходуецца дзяржаваю на асьвету. Калі ня мыляемся, дык бюджэт Міністэрства Асьветы дасягае ў год 240 міл. Як ведама-ж, пятнаццатая частка гэтае сумы вынясе—аж 16 мільёнаў у год! — А колькі-ж фактычна расходуецца ў сучасны мамэт на беларускую школу? Ня ведаем, але з пэўнасьцю можна сказаць, што ня болей як $^{1}/_{100}$ частка таго, што належыцца...

Гэтак выглядае голая праўда — ў сьвятле цыфровых даных.

А як часта мы чуем і ад польскага грамадзянства, і ад прадстаўнікоў Ураду аб тым, што слушныя патрэбы меншасьцяў будуць здаволены! Дык калі-ж урэшце гэтыя запэўненьні будуць праўдзівыя?

Напярэдадні стварэньня новага Ураду, незалежна ад таго, які ён будзе, Беларусы ўправе патрэбаваць, каб тое, што нам па праву належыцца, было ўрэшце дадзена Польскай Дзяржавай, якая перад абліччам усяго культурнага сьвету дэкляравала „апекавацца“ культурнымі патрэбамі нацыянальных меншасьцяў і здаволіваць гэтыя патрэбы. Даволі „пекных слоў“: **мы трэбуем пекных дзел!**

X. I.

* * *

пасьвячаецца маладым песьняром.

За творчасьці варштатам —
Вагністы, бурны ўзлёт,
Рукой сваёй заўзятай
Хапай парываў лёт!
Мы дружна будзем дзьмухаць,
Каб выйшаў чутны тон,
І песьняй — весялухай
Зазвонім на загон...
Пагляньце колькі сьвету!
Як зьзяе даль палёў!...
Ідзем да свае мэты
З напевам кавалёў!
Нам песьні звонка скропляць
Вясеньнія дажджы...
Запалу пэўне хопіць
Да сонца дабрысьці...
За творчасьці варштатам —
Вагністы, бурны ўзьлёт.
Рукой сваёй заўзятай
Хапай парываў лёт!

1929.

* * *

Годзе песьні пяяць аб нудзе!
Сэрца бунтам б‘е у кажух...
Па краіне ідзе — гудзе
Весназвонны, магутны рух...
Песьня!
Песьня бунтарна — гулкая!
Вырвіся з бледых, спрагненых губ...
Грымні па бруку... гулкамі
Гулам тысячных труб.

1929.

## З Радавае Беларусі.

**„Правы ўхіл“ і беларускасьць**

Як мы ўжо адзначалі ў папярэдніх нумарох' маскоўскія арганізатары процібеларускага паходу тлумачаць „правы ўхіл“ у камуністычнай партыі на Беларусі—выключна „беларускім нацыяналізмам“. Так зусім цьвёрда заявіў і агент Сталіна А. І. ў сваіх артыкулах у „Комсом. Правде“. І гэта зьяўляецца ўсей падставай дзеля напасьці на камуністаў-беларусаў.

Хаця дакладчык на верасьнёўскай сэсіі пленуму Цэнтральнага К-ту Кам. Партыі Беларусі, Гамарнік, „в угоду начальству“ лічыць усе закіды А. І. беларускім камуністам „наагул правільнымі“, але і ён ня здолеў „ператравіць“ гэную яўную ману. І вось, што ён заявіў у сваім дакладзе (гл. „Сав. Белар.“ № 207 з 11 кастрычніка с. г.):

> А. І. выводзіць зямельную палітыку з аграрнай праграмы „Н.Н.“ *) толькі таму, што **ўсе праяўленьні правага ўхілу ў Беларусі ён зводзіць да аднаго толькі беларускага нацыянал-дэмакратызму.** Замест таго, каб паказаць, як зямельная палітыка і практыка, што вынікалі з права-апартуністычных установак на „пашыраны нэп“ і „ўзбагачайцеся“, **спрыялі** ўмацаваньню кулака, а адсюль—і росту нацыянал-дэмакратызму, А. І., пяравёртваючы ўсё на галаву, выводзіць зямельную палітыку з праграмы „Н. Н.“.
>
> Зусім відочна, што нацыянал-дэмакратызм цесна пераплятаецца з права-ўхілісцкімі ўстаноўкамі і што правы ўхіл у Беларусі часта афарбоўваецца ў нацыянал-дэмакратычныя калёры. Але пагоня А. І. за „самабытнымі“ карэньнямі правага ўхілу ў зямельнай палітыцы Беларусі толькі адхіляе партыю ад сапраўднай падаплёкі гэтага ўхілу, ускладняючы гэтым перамогу над ім“.

*) Гэта знача—„Нашае Нівы“.

Сказана вельмі далікатна. Але-ж для кожнага, хто думае сваімі ўласнымі мазгамі, а не „па прыказу начальства“, ясна, што так-званы „правы ўхіл“ у кампартыі вырас не на Беларусі, а ў Маскве, што ў правым ухіле абвінавачаны такія творцы сацыяльнае рэвалюцыі і блізкія да Леніна людзі, як Бухарын і Луначарскій! Ці і яны—вынік „інтрыгаў“ беларусаў?

Ня гледзячы на ўсю абсурднасьць лучэньня „правага ўхілу“ з беларушчынай, Масква гэтак загадала,—і вось за ёй паўтараюць гэта ўсе тыя маскоўскія нацыяналісты, што ахварбаваліся ў чырвоны колер і нават „беларусізаваліся“. Найярчэй выявілася гэта ў справе „чысткі“ закладчыка Кам. Партыі Беларусі Зьмітры Жылуновіча (Цішкі Гартнага). „Абноўленая“ рэдакцыя „Сав. Беларусі“, гаворучы аб гэнай „чыстцы“, піша, што партыя мае на мэце

> „ачышчэньне“ сваіх радоў ад чужых элемэнтаў, якія прымазаліся і разлажыліся, ад усіх тых, хто сьвядома перашкаджае нам у справе разгортваньня будаўніцтва соцыялізму“.

Інакш кажучы, і закладчык партыі аказаўся „чужым“, „прымазаўшымся“ дя яе... Ці-ж хто можа паверыць у гэга? — Аднак, „угоднікі“ свайго партыйнага „начальства“ ў Маскве робяць від, што вераць у гэта.

Ці-ж усе, аднак, стаяць гэтак нізка маральна, каб згадзіцца без пратэсту рабіць тое-ж? О, не. І вось вам голас ідэйных беларусаў-камуністаў.

**Голас беларусаў.**

Мы на-жаль ня маем тэкстаў прамоў тых беларусаў-камуністаў, якія пры „чыстцы“ Жылуновіча мелі адвагу адкрыта запярэчыць узьведзенай на Жылуновіча бязглузьдзіцы. Мы карыстаемся адно толькі пераказам „абноўленае“ „Сав. Беларусі“ (з 1 лістапада 1929 г. № 251), а ў якім ду-

ху гэты пераказ зроблены, можна сабе прадставіць, прачытаўшы адзін з падзагалоўкаў адноснае стацьці: „Арганізаванай вылазцы разьюшанай нацыянал-дэмакратыі партыя дасьць рашучы адпор“...

Што-ж гэта за „разьюшаныя нацыянал-дэмакраты“? Ні болей, ні меней, як сябры камуністычнае партыі—Ільлючонак, Марук, Ів. Цьвікевіч, М. Гарэцкі, адважыўшыяся сказаць некалькі слоў праўды.

Вось выемкі з памянёнае стацьці „Сав. Беларусі“—з дробнымі пропускамі:

> Брыкнуўшы такім чынам чыстку, ён павёў атаку супроць тых, хто абвінавачваў Жылуновіча ў нацыянал-дэмакратычным ухіле. Усе захады, да „зьвілін мазга“ ўключна, Цьвікевіч ужыў, каб давесьці адваротнае—іменна, што ніхто іншы, як Жылуновіч, і зьяўляецца першым барацьбітом супроць нацыянал-дэмакратызму, а тыя, што выступаюць супроць Жылуновіча, толькі зводзяць з апошнім асабістыя рахункі. „Траба адкінуць асабістыя рахункі“—гаворыць Цьвікевіч.

Пры такім „об‘ектыўным“ спосабе пераказу прамоваў камуністаў-беларусаў, пэўне-ж, не заўсёды можна зразумець, што гаварыў няміла „начальству“ прамоўца. І мы запраўды-ж ня можам разабрацца ў пераказе прамовы М. Гарэцкага. Бачым толькі, што новых рэдактароў „Сав. Бел.“ да шалу давяла адна думка, вызказаная гэтым прамоўцай:

> „Ці ня могуць быць у гісторыі такія мамэнты, калі асобы, якія адносяцца да пэўных нацыянальных пластоў, павінны ўмець увязаць гэтыя пытаньні (аб клясавых і нацыянальных інтарэсах.—Рэд.), бо ў тактыцы ў іх гэта мае іншы выгляд?“

Вось, гэтая думка, на якой была збудавана ўся ідэолёгія і тактыка Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады ад самага яе заснаваньня, і выклікала такое абурэньне „Сав. Бел.“, што газэта „тлумачыць“ іх на свой язык у такой форме, як прамоўца ня мог сказаць.

> Ужо з самага пачатку яго праверкі, якая праходзіла амаль 4 дні пры самай напружанай увазе партыі і працоўных, можна было заўважыць кансалідацыю варожых нам нацыянал-дэмакратычных элемэнтаў, якая адбывалася навокал праверкі тав. Жылуновіча. Гэта кансалідацыя мела сваю падставу яшчэ і ў тым, што, папершае, у асобе тав. Жылуновіча нацыянал-дэмакратычныя колы бачылі свайго правадыра і ідэёвага кіраўніка, а, падругее, што тав. Жылуновіч сваімі паводзінамі ў часе чысткі падштурнуў іх на тое, каб выйсьці і даць партыі бой па радзе пытаньняў.
>
> „Ашалелыя дробныя буржуа“ з нацыянал-дэмакратычнага лягеру арганізавана выступілі ў часе праверкі тав. Жылуновіча, выкарыстаўшы для гэтай мэты т. т. Ільлючонка, Марука. Ів. Цьвікевіча і М. Гарецкага. У сваіх прамовах гэтыя апошнія абралі мэтад адкрыта разьюшанай атакі на партыю, на яе кіруючыя органы. Яны імкнуліся скампрамітаваць ідэю чысткі партыі, паклёпніцкі падтасоўваючы факты ў некаторых выпадках, вядучы шалёнае наступленьне на тых, хто змагаўся за лінію партыі. Аб тым, што гэтае выступленьне было арганізованым, сьведчыць рад фактаў. Апошнія тры прамоўцы адначасова запісаліся на прамовы і зьмест іх прамоў быў аднолькавы.
>
> У сваей прамове Ільлючонак заявіў: „Ня трэба абвастраць адносін“. Паміж кім і кім—ён не сказаў, але гэта і ня было патрэбна. Было зразумела, што ня трэба абвастраць адносін паміж партыяй і нацыянал-дэмакратызмам. Пасьля гэтага ён перайшоў у атаку. Ен абвінавачвае ўсіх, хто задае Жылуновічу пытаньні, у вялікадзяржаўным шавінізьме і, нарэшце, кінуўшы „тут не даюць гаварыць пабеларуску“. дэманстрацыйна пакінуў залю.

Пасьля Ільлючонка, якому не далі гаварыць пабеларуску (да чаго абнаглеў маскоўскі шовінізм!), бралі слова Ів. Цьвікевіч, Максім Гарэцкі і Марук.

> А тое, што яны гаварылі, сьведчыла аб нянавісьці іх да тых, хто выступаў супроць нацыянал-дэмакратызму, супроць палітычных памылак Жылуновіча. Першай заявай, з якою выступіла гэта група, быў пратэст супроць пeратварэньня чысткі Жылуновіча нібы ў „паказальны над ім працэс“. Яны адразу ўзялі пад сумненьне напрамак чысткі, прасякнуты ідэяй непрымірымасьці, бальшавіцкай рашучасьцю змаганьня з усялякімі ўхіламі ад ленінскай лініі. „Уся крытыка т. Жылуновіча была накіравана выключна на яго адмоўныя бакі“—заяўляе Цьвікевіч. „Адчуваецца вострасьць атмасфэры“.

А вось, што кажа „Сав. Бел.“ аб прамове Марука:

> Цяжка ўявіць сабе больш варожую прамову. Уся яго прамова была прасякнута нянавісьцю да чысткі і пагардаю да камуністых, агідай да самакрытыкі. Ен, як і Іван Цьвікевіч, пачаў з ацэнкі характару чысткі, знадворнага яе боку, так сказаць. „Праверку тут пeратварылі ў паказальны судовы працэс“. Над нацыянал-дэмакратызмам?—Не, над Жылуновічам! Унутраны зьмест гэтае праверкі: „ляжачага ня б‘юць“, тым больш не абліваюць памыямі. А тут таварышы стараліся выліваць памыі на тав. Жылуновіча. „Камуністыя і безпартыйныя, якія выступаюць з крытыкай, ствараюць „казённыя выступленьні“. Вядомая рэч! Раз „казённыя“, дык, значыць, яны рабіліся па нейкім загадзе. Нацыянал-дэмакраты тут разумеюць „лапу Масквы“, тую самую, аб якой іх браты з замежнай прэсы пішуць больш адкрыта. Але і гэта досыць зразумела. „Казённыя“, г. зн. маскоўскія, анты-беларускія. Характарызаваўшы такім чынам праверку, Марук таксама пераходзіць да высьвятленьня сваіх поглядаў і на іншыя рэчы. „Як мы павінны расцэньваць нацыянальны рух да 1922 году,—пытаецца ён і адказвае:—беларуская інтэлігэнцыя хісталася. Многія былі за Польшчу. Да Масквы цягнуліся толькі адзінкі, асабліва т. Жылуновіч“. І далей: „рукамі т. Жылуновіча партыя праводзіць беларусізацыю, будуе беларускую культуру. З т. Жылуновічам зьвязана ўсё наша будаўніцтва. Праз т. Жылуновіча партыя праводзіла тое, што зрабіла.

(Працяг будзе).

## „Советская Империя“

Паход маскоўскіх цэнтралістаў проці дзяржаўнай самастойнасьці сяброў Радавага Саюзу разгараецца. З Радавай Украіны ідуць весткі аб тым, што, пасьля разгрому украінскай Акадэміі і скасаваньня раду асобных камісарыятаў У. С. Р. Р., радавая ўлада падрыхтоўвае грунт для далейшага абмежаваньня аўтаномных правоў Укр. Рэспублікі. Як заўсёды бывае, думка маскоўскіх заправілаў знайшла сабе маючых добры „нюх“ мясцовых „дзеячоў“ — украінцаў-камуністаў, якія зрабіліся „большымі папістамі, як сам папа“. Так —група сяброў „Ленінградскага Інстытуту“ ў Харкаве выступіла з дамаганьнем „грунтоўнага перагляду камуністычнай палітыкі“ адносна Украіны, крытыкуючы востра сучасную форму фэдэратыўнай сувязі Украінскай Рэспублікі з РСФСР. Гэтая форма павінна быць адкінена, бо яна „не папераджае ўзросту украінскага нацыяналізму“,—кажуць харкоўскія маскалі, трэба мець да таго-ж на ўвазе яшчэ важнейшую „ваенную небясьпеку“ для ўсяго Саюзу з боку украінскага сэпаратызму. А таму — замест фэдэратыўнай сувязі — трэба стварыць „больш цеснае аб‘яднаньне, дыктаванае мэтамі і задачамі ваеннай сілы і адзінства Радавай дзяржавы“.

Радавая прэса, падаючы гэтыя заявы харкаўскіх „крэсавікоў“, кажа, што голас „Інстытуту Ленінізму“ ў Харкаве добра сфармулаваў думку аб „радавай імпэрыі“, якая мае шмат прыхільнікаў сярод расейскіх камуністаў.

Можна дадаць, што тая-ж „думка“ трыумфуе цяпер і ў Беларускай Рэспубліцы...

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Бартэль варочаецца да ўлады.

Урадавы крызіс у Польшчы як-быццам даходзе да канца. Прэзыдэнт Рэспублікі, у выніку доўгіх гутарак з прадстаўнікамі розных партыяў і старога ўраду ды з марш. Пілсудскім, даручыў злажыць новы ўрад быламу прэмьеру, пакінуўшаму ў свой час сваё становішча, Бартлю.

Ужо ў часе ўсіх гэтых перагавораў газэты розных кірункаў адзначалі, што—ў сувязі з рашучым становішчам соймавае апазыцыі—у лоне ўрадавае партыі пачало выяўляцца змаганьне двух кірункаў: памяркоўнага, які стаіць за мірнае паразуменьне і супрацоўніцтва з парлямантам, і—так-званага „палкоўніцкага“, які трэбуе „рашучых мераў“ адносна да Сойму. Тады-ж пісалі, што памяркоўны кірунак пераважае,—хаця акурат у гэтым часе б. прэмьер Сьвітальскі ў сваей публічнай прамове вельмі рашуча заяўляў, што толькі ягоны ўрад—„rząd pułkowników“—здольны правясьці направу канстытуцыі і ўтрымаць лад і парадак у дзяржаве. Аказалася, аднак, што ў вельмі мілай гутарцы п. Прэзыдэнта з прадстаўнікамі соймавых клюбаў апошнія паказалі сябе гатовымі без барацьбы ісьці на направу канстытуцыі ў кірунку ўзмацненьня ўлады Прэзыдэнта. Дык зусім натуральна, што „палкоўніцкі ўрад“ з сваімі „рашучымі мерамі“ аказаўся ў гэты мамэнт непатрэбным, і пераважыў у ўрадовых колах кірунак памяркоўны.

Што гэта так, сьведчыць газэтная вестка аб тым, што п. Бартэль, калі яму было запрапанована п. Прэзыдэнтам складаньне новага ўраду, паставіў гэткія свае варункі: 1) што ён будзе запраўдным прэмьерам; 2) што новы ўрад будзе высьцерагацца канфліктаў з соймавай лявіцай; 3) што яму дадуць магчымасьць зрабіць зьмены ў урадавым праекце новае канстытуцыі і 4) што будзе ўзноўлена камісія дзеля барацьбы з надужыцьцямі. Відаць, спачатку гэтыя варункі ня былі прыняты, і п. Бартэль, якога паклікалі ў Варшаву са Львова, паехаў сабе да хаты. Але вось праз некалькі дзён у газэтах зьявілася вестка, што п. Прэзыдэнт афіцыяльна даручыў п. Бартлю прэмьерства, а гэта паказвае, што варункі апошняга—прыняты.

# Дзе шовінізм?

У зьвязку з адбыўшайся акадэміяй у чэсьць 400-летняга юбілею выданьня Літоўскага Статуту віленская літоўская газэта „Vilniaus Rytojus“ з дня 7/XII № 62 зьмяшчае арыгінальную стацьцю. У гэтай стацьці нейкі пан М. у вострым і абразьлівым для беларусаў тоне „крытыкуець“ рэфэраты, прачытаныя на акадэміі гр. гр. А. Луцкевічам, А. Зянюком і Я. Станкевічам, вінавацячы іх адначасна ў шовінізьме адносна да літоўцаў. Стацьця гэтая сьведчыць як аб ненавісьці яе аўтара да беларусаў, таксама і аб слабой яго ведзе з гісторыі даўнейшага Вялікага Князьства Літоўскага. Што сярод літоўскага грамадзянства ў Вільні можа існаваць адзінка з такімі варожымі пачуцьцямі да беларусаў, гэта нічога дзіўнага, але, што друкуючы гэтую стацьцю згадзілася з ёй і рэдакцыя „Vilniaus Rytojus‘а“, часопісі, рэпрэзэнтуючай большую частку літоўцаў пад Польшчай, гэта да пэўнай меры дзіўна.

Аўтар вышэй памянёнай стацьці цьвердзіць, што мова Літоўскага Статуту—царкоўна-славянская, якая была ўжывана тады ўсімі ўсходнімі і паўднёвымі славянамі, так, як на Захадзе ўжывалася лацінская мова, і з гэтага вынікае, што беларусам няма чым хваліцца, бо злажылі Статут хутчэй самі літвіны, чым беларусы. Відаць, п. М. нічога ня ведаець аб тым, што Беларускія землі, увайшоўшыя пазьней у склад Вял. Кн. Літ., пераняўшы з Візантыі пісьмо і царкоўна-славянскую мову, з часам цалком замянілі яе сваей мовай, зьмяніўшы ў пэўнай меры і правапіс. Да гэтага спрычыніўся той гістарычны факт, што ў пачатку XIII ст. Маскоўшчына і Украіна былі паняволены татарскай дзічай, якая як мурам адгарадзіла Беларусь ад даўнейшай крыніцы культуры — Візантыі. Астаўленая сама сабе, беларуская пісьменнасьць ня толькі не падупала, але яшчэ больш разьвілася, прыбліжаючыся адначасна да народнай мовы. Гэтак, калі мы возьмем мову беларускіх рукапісаў з XVI ст. і параўнуем яе з мовай ці то царкоўна-славянскай, ці з мовай рукапісаў Маскоўшчыны, дык пабачым вялікую між імі розьніцу. Гэтая беларуская мова (тады яе называлі „рускай“, а ў Маскве „літоўскай“) панавала ўва ўсім Літоўскім княстьве і ўжо ад XIV ст. сталася дзяржаўнай мовай гэтага княз ьства. Гэта здарылася таму, што літоўская мова была яшчэ неразьвітая і ня мела адпаведнага пісьма, калі тымчасам у „русічаў“ (беларусаў) і пісьмо было, і была разьвітая мова. Вось, як аб гэтым гаварыў у 1501 г. віленскі пралат Эразм Вітэлі рымскаму папе: „Літоўцы маюць уласную мову. Але дзеля таго, што русіны жывуць у сярэдзіне дзяржавы, усе звычайна карыстаюцца іх мовай, бо яна далікатнейшая і больш лёгкая“.

З далейшых слоў стацьці відаць, што аўтар не ор‘ентуецца ў тагачасных тэрмінах. Паважаны п. М. ня ведаець на‘т таго, што—літвін, Літва, літоўскі—тады (а нават часта і цяпер) ужываліся ў значэньні, абымаючым ня толькі этнографічных літоўцаў, але і ўсіх грамадзян Вял. Кн. Літ. Я думаю, п. М. чуў аб тым, што і цяпер многія паны-абшарнікі з нашых „Крэсаў“ любяць сябе называць літвінамі; а яшчэ ня шмат часу прайшло і ад таго, як маршалак Пілсудскі, будучы падчас сэсіі Лігі Народаў у Жэнэве, высказаўся: „Ja też jestem litwinem“.... Падобна было і ў часы Літоўскага Статуту. Маскоўцы і палякі ўсіх жыхараў Вял. Кн. Літ. называлі „літвінамі“, мову-ж іх — „літоўскай“, і гэта ня значыла, што гэтая мова запраўды літоўская. Вось як гаворыць тагачасны вялікі дзяржаўны муж Леў Сапега, рэдактар трэцяга выданьня Літоўскага Статуту, аб яго мове: „А естли которому народу встыдъ правъ своихъ не умети, поготовю намъ, которие не обчимъ якимъ езыкомъ, але своимъ власнымъ права списаные маемъ:..“ Хіба-ж гэтую мову „ўласную“, значыцца родную для ўсіх грамадзян Вял. Кн. Літ., не назаве п. М. літоўскай! Не магла быць „роднай мовай“ і царкоўна-славянская мова....

Ня ведаючы такіх асноўных гістарычных фактаў, нічога дзіўнага, што п. М. не ведае і таго, што было беларускае баярства, былі свае правы, культура і інш. Тут можна было-б толькі парадзіць пану М. даведацца аб усім гэтым у найбольш для яго даступнай крыніцы—у гісторыі літоўскай літэратуры (V. Zajančkaukas. Lietuviu literaturos vadavelis (1409—1904) Vilnius. 1924 m), дзе даволі добра асьветлена пара панаваньня беларускае мовы ў Вял. Кн. Літоўскім.

У далейшым п. М. нізашто ня хоча пагадзіцца з тым, што ў часы Літоўскага Статуту беларуская культура перавышала літоўскую. Але, калі дапусьцім, што так ня было, дык як тады пагадзіць вышэй успомненыя факты: што мова беларуская ў Літоўскім гаспадарстве была дзяржаўнай? што ўся этнографічна літоўская інтэлігенцыя вучылася ёю гаварыць? Незразумелым тады было б і тое, што,—як аўтар стацьці ўспамінае,—усходняя літоўская этнографічная мяжа пасунулася значна на захад (на карысьць беларусаў). Калі гэта сталася, дык у вялікай меры толькі з прычыны вышэйшасьці культуры беларусаў за культуру літвіноў.

Як усё гэта будзе выглядаць на дзеле, сяньня трудна варажыць. Вось, абшарніцкае „Słowo“ дык пацяшае сябе тым, што „так ці сяк, а ўлада астаецца ў руках маршалка Пілсудскага“. Як гэта разумець, пакажа, поўне-ж, хуткая будучыня.

### У Сойме.

Ня гледзячы на габінэтны крызіс, паседжаньні Сойму ўзнавіліся. На парадку дня — розныя драбнейшыя справы, у тым ліку—увядзеньне некаторых зьменаў да соймавага рэгуляміну (парадку працы).

У суботу, 21 сьнежня, пры разглядзе зьменаў у соймавым рэгуляміне, украінскі пасол Загайкевіч ад імя ўкраінцаў і беларусаў запрапанаваў зьмяніць арт. 3 рэгуляміну—ў тым духу, каб беларусы і ўкраінцы ў Сойме мелі права **прамаўляць і карыстацца на пісьме роднай мовай сваей.** Ясна-ж, што польскія партыі большасьцяй галасоў гэту папраўку адкінулі.

На тым-жа суботнім паседжаньні Сойму выбрана была камісія дзеля разгляду і высьненьня выпадкаў у Сойме 31 кастрычніка, калі маршалак Сойму Дашыньскі адмовіўся адчыніць паседжаньне ў прысутнасьці ў гмаху Сойму каля 100 афіцэраў, бачучы ў іх асобах пагрозу для Сойму. Урадавая партыя (Б. Б.) выступіла проці наданьня камісіі праву судовага сьледзтва, лічучы немагчымым, каб сьведкі паказвалі перад камісіяй пад прысягай ды каб урадоўцы гаварылі ўсю праўду, не засланяючыся „службовай тайнай“. Аднак, Сойм падаў камісіі гэткія шырокія паўнамоцтвы і выбраў у склад яе 3 паслоў з партыі Б. Б., 2 — з ППС, 1 — з Вызваленьня, 1 — з Украінскага клюбу, 1 эндэка і 1 з „Хлопскае Партыі“.

---

# Заграніцай.

### Польшча-Літва.

20/XII закончыла працу транзытная падкамісія Лігі Нацыяў, якая мела задачай прысьпяшыць устанаўленьне нормальнай безпасрэдняй камунікацыі паміж Польшчай і Літвой. У зьвязку з працамі падкамісіі нядаўна прыяжджаў у Коўну яе старшыня п. Васкончэлос (б. партугальскі прэмьер), які намейсцы знаёміўся з справай і меў націснуць на Літоўскі ўрад—у кірунку паразуменьня з Польшчай. Як пішуць газэты, п. Васкончэлос мае ў найбліжэйшым часе яшчэ паехаць і ў Варшаву.

У рэзультаце працаў падкамісіі, якія вяліся ў сьцісльм сэкрэце (?), быў апрацованы даклад, у якім насамперш сьцьверджана адсутнасьць усялякай камунікацыі чыгункавой і паштовай паміж Польшчай і Літвой, пасьля выказаны ўсе гаспадарчыя шкоды, выплываючыя з такога стану рэчаў для дзяржаваў, ня толькі беспасрэдня заінтэрэсаваных, як Польшча і Літва, але заінтэрэсаваных у транзыце праз Літву і Польшчу краёў, як ССРР, Нямеччына і Латвія. Указывае даклад на шкоду, зробленую Літвой справе міжнародавай камунікацыі—праз зьніжтажэньне адрэзку важнага чыгункавага шляху Лібава-Ромны, які (адрэзак) праходзіць праз тэрыторыю Літвы. У канцы даклад падкамісіі зьмяшчае сьцяг прапанаваных ей мераў, каб адбудаваць нармальную камунікацыю ў гэтым пасе Усходняе Эўропы.

Даклад падкамісіі мае разглядацца на штогоднай сэсіі транзытна-камунікацыйнай камісіі Лігі Нацыяў, якая зьбярэцца ў сакавіку 1930 г.

Пастановы гэтай камісіі далей пойдуць на маёвую сэсію Рады Лігі, якая ізноў будзе круціць мазгамі, як уплынуць на Літоўскі ўрад, каб змусіць яго пайсьці на паразуменьне з Польшчай прынамся ў галіне камунікацыі. Ці выйдзе што з гэтага, хто ведае. А пакуль узойдзе сонца польска-літоўскага паразуменьня, наш край гіне гаспадарча, адрэзаны ад сваіх натуральных рынкаў і—выхаду да мора...

### Нямеччына.

Нямеччына амаль не апынулася ў стане урадавага крызісу—з прычыны таго самага старшыні Нямецкага (дзяржаўнага) Банку п. Шахта, які, як ведаюць чытачы, выдаў нядаўна вельмі востры мэморыял, крытыкуючы „Плян Юнга“ і пастановы рэпарацыйнай канфэрэнцыі ў Гаазе, як немагчымыя для Нямеччыны.

Хаця Нямецкі ўрад і атрымаў тады даверра парляманту, але і Шахт не супакоіўся, і высунулася новая небясьпека для ўраду—у часе разгляду бюджэту.

Справа—ў тым, што лепшы наагул для шырокіх працоўных масаў новы нямецкі бюджэт пабудаваны ў значнай меры на дэфіцыце (недахопе, ці перавазе выдаткаў над даходамі) — ў 400 міл. марак...

Зразумела-ж, ніякага недахопу ў бюджэце ня было-б, калі б не вялізарныя, колькі-мільярдавыя „сплаты“ ваенных адшкадаваньняў—саюзьнікам.

Але—як-бы там ні было — урад не знайшоў крыніцаў для пакрыцьця дэфіцыту і пастанавіў зьвярнуцца — да заграгічнай пазыкі. З вялікім банкавым трэстам Dillon'а была амаль не падпісана ўжо ўмова аб гэтай пазыцы. Але раптам старшыня Нямец.-Банку Шахт, які, паводле статуту Банку, кіруе ўсей фінансава-крэдытовай палітыкай краю, налажыў сваю забарону на гэтую ўмову. Таму ўрад вялізарнага бюджэтнага недахопу пакрыць ня мае чым. Міністар фінансаў сац.-дэм. Гільфэрдынг заявіў, што выходзіць у адстаўку. Цікаўна, што проці мін. Гільфэрдынга выступіла нават яго ўласная фракцыя, і толькі ўмяшацельства самага канцлера Мюлера пакуль-што стрымлівае габінэт ад крызісу. Як тлумачаць газэты, акцыя Шахта ідзе ў двух кірунках: ён трэбуе, каб пазыка была зроблена ў краі—нават на варунках крыху горшых, а не заграніцай; апрача таго—дамагаецца, каб урад адмовіўся ад таго вялізарнага зьніжэньня падаткаў (з шырокіх колаў працоўнага насяленьня), якое можа зашкодзіць Нямеччыне ў яе барацьбе на другой канфэрэнцыі ў Гаазе—за перагляд „Пляну Юнга“, якую распачаў Шахт...

І вось апошнія весткі кажуць, што Шахт ужо перамог нямецкі ўрад у гэтай сваей барацьбе з ім.—Урад адмовіўся ад амэрыканскай пазыкі, урад пайшоў за „радай“ Шахта ў справе пазыкі ў краі, аб якой ужо дагаварыўся з Нямецкім Банкам. Шахт заявіў за гэта, што „Нямецкі Банк“ кіне ўвесь свой аўтарытэт на тое, каб Нямецкі ўрад атрымаў крэдыт у краі — дзеля пакрыцьця недахопу ў сваіх касах. А праектаванае ў бюджэце зьніжэньне падаткаў мае быць... адкладзена да 1 кастрычніка 1930 году!...

У выніку гэтага свайго паражэньня мін. Гільфэрдынг выйшаў у адстаўку.

### Англія.

У папярэднім нашым аглядзе палітычнага жыцьця Англіі мы зьвярнулі ўвагу на цяжары і небясьпекі, пагражаючыя работніцкаму ўраду ў Англіі знутра—з боку расчараваных працоўных масаў, якім паны міністры ўраду Мак-Дональда адно абяцалі ў часе выбарных спакусаў, а нешта зусім іншае робяць, атрымаўшы ўладу ў гаспадарстве.

Але-ж—няменшая небясьпека, як адзначалі мы, пагражае работніцкаму ўраду і звонку—з боку буржуазнай апазыцыі, якая ў парляманьце **мае большасьць на 39 галасоў,**—дык толькі з ласкі і з ведамых тактычных мяркаваньняў дазваляе ўрадаваць у краі сацыялістам—пад варункам... вырачэньня ўсялякага сацыялізму з іх боку!

Апошнія весткі з Лёндану кажуць, што буржуазная апазыцыя ў парляманьце быццам—пераходзіць ужо ў наступленьне...

Павадыр англійскіх лібэралаў, ведамы Лёйд-Джордж, заявіў, што лібэралы будуць галасаваць проці „вугальнага законапраекту“ ўраду. Лібэралы згаджаюцца на скарачэньне часу працы вуглякопаў, як і на „цэнтральную раду“, якая-б рэгулявала плату вуглякопаў ува ўсей Англіі. Але ня могуць прыняць законапраекту ў цэласьці. Так-сама проці законапраекту выказаліся і кансэрватары. Офіцыяльны орган апошніх — „Таймс“ піша, што „габінэт Мак-Донакльда перажывае ў сучасны мамэнт самы паважны крызіс“.

Да гэтага ўсяго—так-сама лібэраламі—падрыхтавана яшчэ адна „міна“, якая можа ўзарваць габінэт Мак-Данальда. Міна гэтая цэліць у самае балючае і слабое мейсца „работніцкага“ ўраду. Як мы казалі раней, „лебурысты“ здабылі значную перамогу на выбарах, галоўным чынам, дзякуючы свайму абяцаньню **грунтоўна вырашыць страшэнна цяжкую для краю праблему безрабоцьця.** У часе выбарнай кампаніі павадыры „Партыі Працы“ лаялі кансэрватыўны ўрад за тое, што той нічога не рабіў для ліквідацыі безрабоцьця, ды зьдзекаваліся й над лібэраламі за іх „лялькавы“ праект наладзіць працу для безработных у працягу 5 гадоў ды г. д. Але вось цяпер сам міністар публічных работаў работніцкага габінэту, Томас, апрацаваў законапраект аб „ліквідацыі безрабоцьця“, паводле якога ўрад мае даць працу **толькі 190.000 безработным, дый то—на 1 толькі год.**

Дзіва, што і лібэралы, і кансэрватары ўхапіліся за гэты „козыр“, каб парахавацца з праціўнікам! І павадыр лібэралаў, Лёйд-Джордж, у паразуменьні з кансэрватарамі—неспадзявана ўнёс у парлямант прапазыцыю, каб яшчэ перад калядамі паставіць на чаргу дня—у шырокім маштабе — пытаньне безрабоцьця. Гэтым спрытным ходам буржуазная апазыцыя хоча вырваць у работніцкага ўраду ініцыятыву (пачын) у асноўным, галоўным пытаньні яго сацыяльнай праграмы, ды скампраматаваць яго ў вачох яго працоўных выбаршчыкаў!..

Мак-Донакльд адказаў на гэта адмовай: урад яго адмовіўся склікаць канфэрэнцыю ўсіх трох партыяў для нарады ў справе бязрабоцьця. Тады павадыры апазыцыі і заявілі, што патрэбуюць разгляду справы ў парляманьце яшчэ да каляд!..

Такім чынам можа лёгка габінэт Мак-Донакльда панесьці паражэньне ў парляманьце, дый пры тым — у варунках, якія вельмі цяжка могуць адбіцца для „лебурыстаў“ на так пажаданых, для іх наагул новых выбарах... — Бо-ж трэба спадзявацца, што, атрымаўшы недаверра з боку палаты, Мак-Донакльд не зрачэцца адразу ўлады на карысьць буржуазнай апазыцыі, але перанясе спор з ёй на вырашэньне ўсяго краю — шляхам новых выбараў.

### Грэцыя.

15.XII на злучаным паседжаньні Сойму і Сэнату адбыліся выбары новага Прэзыдэнта Грэцкай Рэспублікі. Выбраны прэзыдэнтам Заіміс. Новы прэзыдэнт мае 73 гады, таму няведама, ці дажыве да канца выбарнага часу. Прэзыдэнт Заіміс быў ужо не аднойчы міністрам і прэмьерам; асабліва ўславіўся тым, што меў адвагу рашуча парадзіць каралю Канстантыну зрачыся трону.

### Кітай—ССРР.—Японія.

Цяжкое палажэньне Нанкінскага ўраду, выкліканае паўстаньнем збунтаваных ваенных часьцін і цэлага сьцягу паасобных мясцовых генаралаў, значна палепшылася. У сярадзіне тыдня ўрадавае войска—пасьля цяжкога бою пад Кантонам, у якім лягло больш 5.000 душ,—разьбіла і змусіла да адступленьня на ўсім фроньце паўстанцаў, якія амаль ужо ня ўзялі Кантону. Адначасна нанкінскае войска разьбіла сілы паўстаўшага проці цэнтральнага ўраду губэрнатара правінцыі Квангсі, які выступаў у саюзе з ген. Чанг-Фа-Вэем, які сам ранены ў баі. Гэтымі дзьвюма пабедамі, як лічыць Нанкінскі ўрад, дадзены сьмяротны ўдар паўстаньню. Поўная ліквідацыя яго—справа бліжэйшага часу.

Аднак-жа разьбітыя ў баі, як ваенная сіла, паўстанчыя атрады рассыпаліся па краі, рабуючы насяленьне, забіваючы чужаземцаў і місіянераў. І вось англійская прэса, вельмі прыхільная наагул да нанкінскага ўраду, ня лічыць аднак-жа, што апошнія пабеды Нанкіну адбудавалі ўжо былое адзінства Кітаю—пад уладай яго цэнтральнага ўраду: ані паўночны Кітай—Манчжурыя, ані паўдзённы Кітай, дзе шмат яшчэ засталося збунтаваных начальнікаў правінцыяў,—і фактычна і юрыдычна не прызнаюць яшчэ ўлады Нанкіну. Такім чынам,—кажа „Таймс“—„у сучасны мамэнт яшчэ вельмі далёка да стварэньня ў Кітаі адзінага ўраду“...

Першым рэзультатам гэтай слабасьці цэнтральнага (нанкінскага) ўраду ў Кітаі зьяўляецца **поўная самастойнасьць** Мукдэнскага ўраду—ў яго перагаворах з Радамі ў справе ліквідацыі канфлікту аб Усходня-Кітайскую чыгунку.

Апошнія весткі кажуць, быццам канфлікт тымчасова зьліквідаваны. У Хабароўск прыбыў дыпляматычны камісар Мукдэнскага ўраду Тсай і заявіў афіцыяльна паўнамоцніку Радаў, Сімаяоўскаму, што старшынёй праўленьня Усх.-Кітайскае чыгункі назначаны Тофуміан; з свайго боку Сімаяоўскі заявіў аб назначэньні радавым урадам дырэктара і яго памочніка—Рудога і Дэянісава. Такім чынам супольная ўлада на чыгунцы быццам ужо адбудавана. Але да адбудаваньня былога парадку і нармальнага руху на чыгунцы—яшчэ далёка.

Есьць весткі, быццам Мукдэнскі ўрад адцягівае справу паразуменьня, спадзяючыся на ўмяшацельства вялікіх дзяржаваў. Есьць весткі, быццам радавае войска ня спыняе дзеля таго ваеннай дзейнасьці, усьцяж тэрорызуючы Мукдэнскі ўрад бомбавымі атакамі з аэрапляпаў. Але наагул трэба лічыць, што канфлікт узышоў цьвёрда на шлях ліквідацыі: перагаворы ў Хабароўску—толькі падрыхтоўка; фармальныя перагаворы маюць распачацца неўзабаве ў Харбіне.

Дзеля таго-ж, каб „быць бліжэй“ да мейсца перагавораў, бальшавікі падсунулі радавую граніцу амаль не ўдвая бліжэй—пад Харбін, стварыўшы, як ведама, новую „Мангольскую Радавую Рэспубліку“, якая ўжо афіцыяльна „заявіла аб сваім далучэньні да ССРР.“. Апрача „падсоўваньня“ бліжэй да Манчжуры, Мангольская рэспубліка мае вялізарнае значэньне для радавага панаваньня над Усх.-Кітайскай чыгункай, бо ў Манголіі знаходзяцца вугальныя капальні, якія дастаўляюць вугаль для чыгункі.

Пасьпех бальшавікоў у Манчжуры і Манголіі ў апошнія дні, як можна было прадбачыць, занепакоіў Японію, дагэтуль вельмі прыхільна глядзеўшую на „лекцыю“, дадзеную Радавым войскам Манчжурскаму ўраду.

Японскі ўрад зьвярнуўся да Масквы з цэлым сьцягам „пытаньняў“. Японія пытаецца, ча

---

Да заявы, што „у Літоўскім Статуце **магчыма** больш ёсьць выражэньняў і тэрмінаў літоўскіх, чым беларускіх“, хіба што комэнтарыяў ня трэба. Тут найярчэй паказана ігноранцыя і—шовінізм аўтара, якімі прасякнута ўся стацьця.

Складаньне „віны“ (лічэньне Літоўскага Статуту беларускім!) на **часьць** беларускага грамадзянства, ладзіўшую акадэмію, гэта зусім няўдалы манэўр, бо-ж аўтар напэўна ведае, што такое-ж самае пераконаньне ўсяго беларускага народу; а гаварыць, што ладжаньне акадэміі ў чэсьць 400-сотгадовага юбілею Літоўскага Статуту „ёсьць шовінізмам скіраваным проціў літвіноў“, можа толькі такі „не шовініст“, як п. М.

Тут можна адно толькі парадзіць: Medice, cura te ipsum! **V.**

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы гэту стацьцю аднаго з прыяцеляў нашае часопісі, слушна абуранага бястактнасьцяй і ігноранцыяй рэдакцыі літоўскае газэты, лічым сваім абавязкам адзначыць, што аўтар у адным памуліўся: бо-ж знайшлася-ткі часопісь у беларускай мове—клерыкальная „Крыніца“, якая — у тон літвіном—адмаўляе беларусам права лічыць Статут памятнікам беларускага правадаўства, хоць права гэтае сьцьверджана ўсімі бесстароннымі дасьледчыкамі—у тым ліку расейскімі і польскімі вучонымі з даваенных часоў. „Чорны інтэрнацыянал“ у гэтым выпадку найлепш выявіў сваё **не беларускае па ідэолёгіі** абліччэ, нагінаючы сьцьверджаныя навукай факты да сваіх палітычных комбінацыяў.

Адначасна з жалем адзначаем узрост шовінізму і ненавісьці да беларусоў у літоўскага грамадзянства пад Польшчай, што можна вытлумачыць хіба толькі тым **гнілым духам**, якім заражае братні нам народ панаваньне ў Літве **фашызму**.

му японскія грамадзяне ў часьці Манчжурыі, акупаванай радавым войскам, церпяць нявыгады; Японія пытаецца, чаму гэта афіцыяльная заява радавага пасла ў Токіо аб тым, быццам радавых войскаў няма больш на тэрыторыі Манчжурыі, разыходзіцца з фактам акупацыі гэтымі войскамі значнай часткі Усх.-Кітайскай чыгункавай лініі. У гэтай перамене тактыкі Японскага ўраду адносна да бальшавікоў адны бачаць страх Японіі перад захватам Харбіна бальшавікамі і пагрозу паважнага канфлікту—на гэты раз ужо японска-радавага. Але другія бачаць у гэтым толькі тактычны ход Японіі, якая—такой вострай нотай да Масквы—хоча толькі залагодзіць у вачох Амэрыкі дрэннае ўражаньне ад сваей адмовы падтрымаць амэрыканскі пратэст—„у духу Келлога",—маючы на ўвазе блізкую ўжо канфэрэнцыю марскіх дзяржаваў у Лёндане, на якой Амэрыка будзе йграць такую рашаючую ролю...

---

# Хроніка.

+ **Звальненьне арыштаваных вучняў.** Як ведама, паліцыя заарыштавала шасьцёра вучняў Віленскае Беларускае Гімназіі, якія былі на пахаронах с. п. Юстына Юхны, дзе была зроблена палітычная маніфэстацыя. Арыштаваныя праседзілі пару тыдняў на „Лукішках", і толькі гэтымі днямі пяцёра з іх звольнены з вастрогу, дзе астаўся йшчэ адзін вучань.

+ **Дапамога сям'і с. п. Юстына Юхны.** У сувязі з сьмерцяй с. п. Юстына Юхны, які апошнім часам працаваў на мястовых работах, адзіны беларускі радны ў Віленскай Мястовай Радзе, грам. Кузьма Крук, зэпрапанаваў на апошнім паседжаньні Рады выасыгнаваць 2.000 зл. на дапамогу сям'і Юхны, якая апынулася ў вельмі цяжкім матэрыяльным палажэньні. Прапазыцыя раднага Крука прынята Радай і адаслана ў камісію дзеля вынаходу адпаведнае сумы грошы.

+ **Забарона пабачаньня.** Б. пасол Браніслаў Тарашкевіч, галава Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, засуджаны на 6 гадоў катаржнае турмы, знаходзіцца цяпер у Вільні на „Лукішках"—у сувязі з другім палітычным працэсам (—у справе мітынгу ў салі „Гэліос" у Вільні, уладжанага Тарашкевічам у 1926 г.). Карыстаючыся гэтым, цэлы рад блізкіх да яго людзей атрымаў ад пракуратуры дазвол на пабачаньне з ім. Адмоўлена ў дазволе толькі грамадзянам А. Луцкевічу і паслу Латвійскага Сойму, Ул. Пігулеўскаму, акі прыяжджаў з Рыгі на абход 10-ых угодкаў сьмерці Івана Луцкевіча.

+ **Вучнёўская часопісь.** Вучні Віленскае Беларускае Гімназіі перад самым сваім роспускам на Каляды выпусьцілі № 1 сваей часопісі пад назовам „Вучнёўскі Звон". На 16 страніцах дадзен даволі багаты й разнародны матэрыял, у тым ліку некалькі вершаў, напісаных вучнямі, пачынаючы ад 1-ае клясы Гімназіі. Кіруе часопісяй рэдакцыйная калегія ў складзе трох вучняў: Ул. Рудніцкі, М. Шчасны, Я. Шалешка. Матэрыялы і дапамогі грашмі прымае вучань VIII кл. Рудніцкі.

Рэдакцыя абвяшчае, што будзе сваю часопісь выдаваць стала—у працягу ўсяго школьнага году. Пажадаем маладой рэдакцыі ў яе працы посьпеху!

Цана асобнага нумару — 50 гр. Прадаецца ў Белар. Кнігарні Белар. Выдавецкага Т-ва (Вільня, Вострабрамская вул. № 1).

+ **„Беларускія казкі"**, Вышла з друку другая кніжка „Кніжкі для моладзі" — „Беларускія (крывіцкія) казкі № 1". Выданьне вельмі прыгожае—з чатырма каляровымі малюнкамі на вокладцы і ў тэксьце. Зьмешчаныя тут казкі выбраны з першага зборніку беларускіх казак А. К. Сержпутоўскага, але мова арыгіналаў не захавана, і казкі маюць выразны сьлед літэратурнае перапрацоўкі.

+ **Зьезд АБСА—адкладзены.** Віленская дэлегацыя беларускага студэнства на гадавы зьезд Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў у Празе, ня маючы магчымасьці выпаўніць усе вымаганыя ўладамі фармальнасьці дзеля выезду на вызначаны дзень 30 сьнежня с. г., зьвярнулася ў Прагу з тэлеграфнай просьбай адкласьці адкрыцьцё зьезду на 4 студня 1930 году. Стуль прыйшоў адказ аб згодзе на гэты адклад.

+ **Батлейка.** Як ужо абвяшчалася ў нас, у Віл. Бел. Гімназіі (Вострабрамская 9) ладзіцца 26 сьнежня, ў 4 гадз. папалудні, батлейка для дзяцей малодшага веку. Уваход вольны.

+ **З праводнай амэрыканскай кніжкі па Польшчы.** У гэткяй праводнай кніжцы, выдздзенай нядаўна амэрыканскім т-вам „Blacks Blue Boocks", паказана на карце, што Вільня, Горадзен, Беласток, Берасьце й Пінск знаходзяцца ў „Літве", а Ковель і Луцк—на Украіне. Калі выдаўцы кніжкі слова „Літва" ужываюць у значэньні даўнейшым, г. зн. пад „Літвой" разумеюць колішнюю Беларуска-Літоўскую дзяржаву, дык на карце паказана зусім правільна. Дзеля таго няма за што злавацца на Амэрыканцаў, як гэта робіць польскі „Robotnik" з 17.XII. сёл. Наадварот, газэта польскіх соцыялістых, лічачы беларускія й украінскія (Ковель, Луцк) мясты за „Польшчу", выказуе гэтым свой шовінізм. Нічога не зьменяе тое, што на менаваных землях няма свае гаспадарственасьці, бо перад вайною той-жа „Robotnik" залічаў, прыкладам, Варшаву не да Расеі, а да Польшчы, хоць там і была расейская гаспадарственасьць. **Р—м.**

+ **Адказы Рэдакцыі** на атрыманыя пісьмы з вёскі—з прычыны нястачы месца ў гэтым нумары—будуць зьмешчаны ў наступным у аддзеле „Паштовая скрынка".

---

**Хто прышле падпіску ня менш, як ЗА ПАЎГОДУ наперад, атрымае ДАРМА месячны адрыўны Календар на 1930 год.**

---

# Карэспандэнцыі.

## Трывожныя весьці аб голадзе.

„Słowo" ў № 292 з 18 сьнежня друкуе гэткія трывожныя весткі аб голадзе, які пагражае няўхільна Віленшчыне:

**„З розных паветаў прыходзяць у Вільню трывожныя весьці аб пагрозе голаду. Ня гледзячы на сёлетнюю акцыю дапамогі Віленшчыне і адноснага ўраджаю, не ўдалося залагодзіць вынікаў леташняга неўраджаю. Паводле справаздачаў павятовых уладаў, насоўваецца яшчэ страшнейшая пагроза голаду, чым летась. Ужо ў студзені 1930 году неабходна будзе распачаць акцыю дакармліваньня: у Дзісьненскім павеце—7.000 малых дзяцей, у Сьвянцянскім—1.000, у Пастаўскім—1.000, у Маладэчанскім—2.900, а ў Браслаўшчыне—2.500 малых дзяцей, 3.100 большых і 6.000 дарослых. У наступныя месяцы гэтыя лічбы будуць узрастаць яшчэ балей, бо ўжо ў пачатку акцыі дакармліваньня скончацца і без таго малыя запасы хлеба. Падлічана, што трэба будзе на дапамогу каля 2 мільёнаў злотых".**

Да гэтага красамоўнага паведамленьня „Słowa" гожа дадаць, што, калі галадаць будуць гэтулькі дзяцей, дык хіба-ж і ў бацькоў іх ня будзе чаго есьці. Толькі з такой папраўкай можна болей-меней правільна прадставіць сабе ўвесь той жах, які насоўваецца на многапакутную Заходнюю Беларусь.

Ясна, што толькі вельмі шырокая акцыя, якая пад сілу адно дзяржаве, здолее хоць крыху зьменшыць мукі нашага сялянства.

**Усіх нашых прыяцеляў і супрацоўнікаў на вёсцы просім дзяліцца з намі весткамі аб палажэньні ў абнятых голадам паветах.**

## Асадніцкая коопэрацыя.

в. Гародзькі, Забрэскае вол., Валожын. пав.

Польскія газэты шмат пішуць аб тэй быццам „карыснай" для краю гаспадарскай дзейнасьці, каторай займаюцца ў Зах. Беларусі асаднікі. Трэба прызнаць, што дзейнасьць гэная ў некаторай меры запраўды ёсьць, але творскай і карыснай яе назваць нельга. Асаднікі імкнуцца захапіць існуючыя гаспадарскія арганізацыі, ня грэбуючы жаднымі спосабамі, і гэтым даводзяць арганізацыі да ўпаду. Тамака-ж, дзе ініцыятыва выйшла ад іх, яны не дапушчаюць да ўчасьця ў арганізацыі шыршага мясцовага грамадзянства, абмежуючыся найболей спалячанымі панкамі ды шляхтаю. А мясцовае беларускае сялянства асаднікі разглядаюць, як афрыканскіх чарнаскурых, каторых у васадніцкіх коопэратывах трэба адно выкарыстоўваць. Прыкладам апошняй „работы" асадніцкай ёсьць лянны коопэратыў у Гародзьках Валожынскага пав. Запраўднымі кіраўнікамі гэтага коопэратыву ёсьць асаднікі — Дэлебіцкі, капітан Швэд з Валожына і інш. У гэтым коопэратыве мясцовыя жанчыны за трапаньне лёну дастаюць у дзень звычайна 90 грашоў, нярэдка грашоў 70 і надзвычайна рэдка плата даходзе да 1 зл. 50 гр. І гэта на сваім хлебе!

Ня лішнім, хіба, будзе адзначыць, што ў усёй процi-беларускай рабоце асадніцкай, памагае асаднікам гародзькаўскі пан Ваўчацкі (з беларускае шляхы.)

---

# Усячына.

## Аб курэньні тытуну.

Тытун прышчэплены ў Эўропе адным францускім паслом у Гішпаніі ў XVI сталецьці (паходзіць з Амэрыкі, як і бульба). Хутка распашыраецца па ўсіх Эўрапэйскіх старонках і ўваходзіць у агульнае ўжываньне. У цяперашні час тытун зьяўляецца, можна сказаць, неабходным прадметам ужытку для большасьці людзей (не адстаюць у курэньні й кабеты). „Я не магу думаць без папіросы"... „Э, закурым, пройдзе туга й гора!"... „Тытун забівае заразу й мікробы"... — вось што кажуць тыя, хто курыць. Гэта часткова справядліва, бо пры курэньні заўважываецца ў пэўнай меры павышэньне працаздольнасьці мазгоў, думка працуе сільней і жвавей. Але, так ці інакш, мы ня можам ня прызнаць таго, што тытун шкодзіць на здароўе. У ім ёсьць атрута, так званы нікацін (Nicotiana tabacum), забойчы для арганізму. Да таго дым, які ўваходзіць у лёгкія (бо інакш няма ніякага смаку) дзеець ад'емна на бронхі, у выніку чаго заўзятыя курцы маюць бранхіт, а пасьля й тубэркулёз лёгкіх — сухоты. Няроўнае адцыханьне пры курэньні дзеець і на сэрца, якое зьяўляецца маторам крыві. Асабліва шкодны благі гатунак тытуну, які кураць бязмоўна, па беднасьці, найчасьцей у газэтнай паперы. Для тых, хто блага адзыўляецца, тытун прыносіць страшэнную шкоду. Асабліва „заўзятым курэньнем" адзначаецца моладзь. Часта здараюцце выпадкі, што маладыя хлопцы паміраюць ад курэньня! Найбольш церпіць ад гэтага пралетарыят. Найлепш за ўсё кінуць зусім гэты благі навык і змагацца з ім, усьведамляючы кожнага ў яго шкоднасьці. Для тых, хто ня можа ніяк кінуць курэньня, будуць карыснымі гэткія парады:

1. Курыць мала, у меру, ня злоўжываць тытуном: 2. Курыць добры тытун; лепш выкурыць адну добрую папіросу, чым аціплёўвацца ад благіх увесь дзень і руйнаваць здароўе. 3. Ня курыць у грубой паперы.

---


# Беларуская Кнігарня

Беларускага Выдавецкага Таварыства

**(Вільня, Вострабрамская вул. № 1).**

**суліць наступныя кніжкі:**

## Школьны аддзел.

МОВА І ЛІТЭРАТУРА.

(Працяг).

**Лёсік Язэп.** „Сынтакс беларускае мовы". Выданьне II—перапрацаванае, Менск—1926 г. Дзяржаўнае Выд. Беларусі. Стар. 255. Цана 7 зл.

**Лёсік Язэп.** „Школьная Граматыка Беларускае Мовы". Выданьне 5-ае—6-ае стэрэотыпнае. Менск—1927 год. Белар. Дзяржаўнае Выд. Стар. 184. Цана 3 зл. 50 гр.

**Лёсік Язэп.** Граматыка Беларускае мовы. Морфолёгія. Менск—1927 г. Белар. Дзярж. Выдав. Стар. 192. Цана 7 зл. 50 гр.

**Луцкевіч А.** „Як вучыць у новай школе?" Рыга—1927 г. Беларуск. Выд. ў Латвіі. Стар. 41. Цана 90 гр.

**Міцкевіч К.** „Мэтодыка роднае мовы". Менск—1926 год. Дзяржаўнае Выд. Беларусі. Стар. 136. Цана 3 зл. 75 гр.

**Паўловіч Сяргей.** Мэтадычныя ўвагі да пасобніка „Пішы самадзейна". Разьвіцьцё навыку самастойнага пісьма. Выданьне І-ае. Вільня—1929 г. Выдавецтва аўтара. Стар. 15. Цана 30 гр.

**Паўловіч Сяргей.** „Пішы самадзейна". Ч. І. Разьвіцьцё навыку самастойнага пісьма. Пасобнік для беларускае школы і самавукаў. Выданьне І-ае. Вільня—1929 г. Стар. 88, Цана 2 зл. 50 гр.

**Stankiewič Janka.** „Nowy Lemantar" dla biełaruskich dzietak. Wydańnie 3-aje, stereotypnaje. Wilnia—1920 hod. Wyd. Ministerstwa Biełaruskich Spraŭ Łitoŭskaha Haspadarstwa. Star. 16. Цана 55 гр.

**Смоліч Аляксандра.** „Зорка". Беларуская граматка. Частка II. Выданьне 5-ае. Вільня—1927 год. Беларускае Выд. Т-ва. Стар. 80. Цана 1 зл.

**Смоліч Аляксандра.** „Зорка". Першая навука чытаньня і пісаньня для дзетак. Выданьне 11-ае. Вільня—1927 год. Беларускае Выд. Т-ва. Стар. 64. Цана 70 гр.

**Тарашкевіч Б.** „Беларуская граматыка" для школ. Выданьне 5-ае перапрацаванае і пашыранае. Вільня — 1929 год. Выдавецтва В. Тарашкевіч. Старонак 132. Цана 2 зл. У вокладцы 2 зл. 50 гр.

**Праграмы** для паступленьня ў Беларускія Гімназіі. Вільня—1925 год. Выдавецтва Т-ва Беларускае Школы. Старонак 15. Цана 30 гр.

**Чарняўская Л.** „Дзяцінныя гульні". Вільня—1919 год. Белар. Выд. Т-ва „Крыніца". Стар. 14. Цана 25 гр.

(Працяг будзе).

**Беларуская Кнігарня** Бел. Выд. Т-ва

Вільня, Вострабрамская №. 1

суліць: календары розных выданьняў — беларускія, расейскія і польскія.

Цэны падробна на кожны падамо пазьней у наступным № газэты.

**СЬЦЕНКІ**

да календара-блёку (адрыўнога)

многакаляровага мастацкага выкананьня з абразкамі родных малюнкаў.

Цана 35 гр. — Пры большым ліку заказчык атрымлівае ськ'ідку.

Галоўны склад:

**Беларуская Кнігарня Беларус. Выдавецкага Т-ва**

Вільня, Вострабрамская 1.


Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.